УзГорак

№ 8 – жнівень 2003 г. - Газета Грамадскіх арганізацый і ініцыятыў.

# Цівыйдзе «БДГ» а прыканцы жніўня


БЕЛОРУССКАЯ ДЕЛОВАЯ ГАЗЕТА


Новая газета

№ 49 (882)

***20 жніўня рэдакцыя выпусьціла чарговы нумар расейскай «Новой газеты» з матэрыяламі для Беларусі й спадзяецца, што гэты спэцвыпуск быў апошнім. Але гарантыяў аднаўленьня нармальнага выхаду «Белорусской деловой газеты» з наступнага тыдня няма.***

***Перашкоды для «Белорусской деловой газеты» і яе штомесячнага дадатку «БДГ. Для служебного пользования» пачаліся прыканцы траўня, калі тагачасны міністар інфармацыі Міхаіл Падгайны адно за адным падпісаў чатыры папярэджаньні абодвум выданьням і загады прыпыніць іх выпуск на тры месяцы.***

Паводле галоўнай рэдактаркі газэты Сьвятланы Калінкінай, трохмесячная забарона заканчваецца 29 жніўня, але рэдакцыя пляную два варыянты дзеяньняў на наступным тыдні.

— Пакуль што ніхто, ыводзін чыноўнік Міністэрства інфармацыі ня можа адказаць нам на пытаньне, які будзе далейшы лёс «БДГ». Таму мы рыхтуем і беларускі выпуск «Новой газеты», і свой выпуск «Белорусской деловой газеты». Спадзяёмся мы, канечне, на лепшае — на тое, што газета будзе выходзіць тут, у Беларусі.

На пытанне, дзе будзе друкавацца газета, Калінкіна адказала: - «Пакуль што друкарні не адмовілі. Яны ўсе спасылаюцца на тое, што як толькі будзе зразумела, што ніякіх далейшых санкцыяў адносна нашай газэты міністэрства прадпрымаць не зьбіраецца, з намі могуць быць заключаныя дамовы на друк. Але штонебудзь больш канкрэтнае сказаць пакуль што немагчыма, таму што новы міністар інфармацыі, паводле нашых дадзеных, цяпер знаходзіцца ў Пэкіне».

Гэтыя словы спадарыні Калінкінай пацьвердзілі ў Міністэрстве інфармацыі, дзе параілі шукаць новага міністра Ўладзімера Русакевіча на працоўным месцы толькі ў верасьні. Кіраўніца юрыдычнага аддзелу Мінінфарму Лілія Богдан цяпер у адпачынку, увесь калектыў ведамства чакае кадравых зьменаў, таму пра лёс «БДГ» чыноўнікі нічога пэўнага сказаць ня могуць.

***Юры Сьвірко,***
***«Радыё Свабода»***

# Ільготыскарацiліся

***Найперш гэта тычыцца людзей, што маюць званьні «народны» і «заслужаны». Пастанова Савету Міністраў дзейнічае з 1 жніўня.***



Паводле гэтага дакумэнту, толькі героі Савецкага Саюзу і сацыялістычнай працы, поўныя кавалеры Ордэнаў працоўнай Славы і проста Славы, а таксама вэтэраны вайны, што маюць больш за пяць баявых ордэнаў, могуць карыстацца ранейшымі льготамі — а яны для пэнсіянэраў даволі значныя. Гэта 50% аплаты жыльля і камунальных паслугаў, штогадовае бясплатнае санаторна-курортнае лячэньне, бясплатны праезд гарадзкім і прыгарадным транспартам, а таксама бясплатнае пратэзаваньне зубоў. Асобы, што маюць званьні «народны», «заслужаны» ды менш ардэнаносныя вэтэраны вайны ў гэты сьпіс ня трапілі.

Пастанова Савету Міністраў прынятая «ў мэтах упарадкаваньня сацыяльных ільготаў». Начальніца аддзелу стратэгічнага разьвіцьця й прагнозу Міністэрства працы ды сацыяльнай абароны Вера Смарчкова лічыць саўмінаўскую пастанову справядлівай. На яе думку, многія «заслужаныя» й «народныя» зьяўляюцца «героямі», таму й так будуць карыстацца ранейшымі льготамі. Астатнія ж асобы будуць карыстацца льготамі, прадугледжанымі іншымі законамі.

Гаворыць Вера Смарчкова: «У справе санаторна-курортнага лячэньня, яны як і ўсе вэтэраны працы маюць раз на два гады бясплатную пуцёўку. Асобы векам больш за 70 гадоў, як і ўсе вэтэраны працы, маюць права на 50% зьніжку ад кошту лекаў. Як вэтэраны працы яны маюць зьніжку 50% на праезд у гарадзкім і прыгарадным транспарце. Нельга сказаць, што ў іх забралі ўсе льготы».

А вось як пракамэнтавала рашэньне ўладаў у справе скасаваньня льготаў заслужаным асобам народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка:

«Вядома, гэта абраза для тых людзей, якія карысталіся нейкімі льготамі. Я ўжо не кажу пра сябе. Мы ўжо нейкім чынам будзем выжываць дзякуючы тым жа нашым дзецям. Я якраз толькі прыйшла, хадзіла наконт атрыманьня пуцёўкі ў санатор. Побач са мной сядзеў вэтэран, які проста з хваляваньнем казаў пра тое, як мала засталося вэтэранаў, інвалідаў вайны. Ён кажа: «Я не разумею нашага «бацьку», чаму ён так ставіцца да сталых людзей? Я лічу, што гэта проста зьнішчэньне людзей, якія прынесьлі свабоду нашай краіне».

***А. Нявяроўскі, «Радыё Свабода»***

# Народнаймове

## будуцьвучыццагорацкіядзеці,алепраадкрыццёў горадзебеларускайшколыгаворкасённянеідзе

***На меўшым адбыцца ў мінулую сераду паседжанні райвыканкама, адным з разгледжаных пытанняў быў працяг працы беларускамоўнага класа ў трэцяй школе. Дарэчы, сёлета яго вучні пойдуць у другі клас. Непрыемна ўразіла, што побач разглядалася пытанне аб працягу навучання ў асобным класедзяцей з затрымкай развіцця.***



Начальнік Упраўлення адукацыі Ігар Воран растлумачыў, што лёс беларускамоўнага класа вырашаўся на выканкаме па-за сувяззю з мовай навучання. Займаецца ў класе толькі дзевяць дзяцей, а мінімальная колькасць, патрэбная для яго адкрыцця - пятнаццаць. Таму і патрэбна было прыняць фармальнае рашэнне.

Як расказаў Ігар Уладзіміравіч, сёлета падрыхтоўчыя класы на беларускай мове плануецца адкрыць у трэцяй і чацьвертай школах. Аб тым, як напярэдадні навучальнага года ідзе іх камплектаванне, мы пацікавіліся, патэлефанаваўшы туды.

Па стане на 20 жніўня ў чацьвертай школе было пададзена дзьве такія заявы. Адносіны да беларускамоўных класаў з боку адміністрацыі добра чуліся ў словах чалавека, з якім размаўляў аўтар: «Можа і гэтыя забяруць».

У трэцяй школе адказалі з аптымізмам: «Класс абавязкова будзе». Ды толькі вось, як быць тым, хто хоча вучыць дзяцей па-беларуску, а жыве, напрыклад, ў раёне Акадэміі. Дабірацца адтуль у трэцюю школу шасці-сямігадоваму дзіцяці вельмі няпроста. На погляд аўтара, Упраўленню адукацыі трэба было улічыць гэтую праблему.

***Іван Марозаў***

# Новым председателем назначен Михаил Михайлович Аникеев



***6 августа из отдела информации райисполкома поступило сообщение о том, что в середине этого дня ожидается приезд могилёвского губернатора Бориса Батуры, который намерен официально представить нового председателя исполкома - хорошо известного в Горках руководителя, ученого и политика Михаила Аникеева. Соответствующий Указ был подписан в Минске накануне.***

Ровно в 14.00 в зале заседаний райисполкома начала работу внеочередная сессия районного Совета. Кроме депутатов, в зале присутствовали руководители организаций, хозяйств, предприятий, работники исполкома, а так же - представители всех ветвей горецкой прессы, в том числе - газет «УзГорак», «Дзядзька Тарас» и «Региональные ведомости». Как выяснилось в последствии, работе уважаемого органа власти последнее обстоятельство нисколько не помешало.

Всё прошло по-деловому быстро и без больших эмоций. Кого-кого, а уж Аникеева, значительную часть жизни отдавшего Горецкому району, долго представлять не имело смысла. Согласие депутатов было единогласным, а выступивший губернатор заверил, что «Это будет плавный переход от одного руководителя к другому и серьёзных изменений в политике не произойдёт»

Получив из рук Бориса Батуры удостоверение, новый руководитель района поспешил успокоить подчиненных: «Я всегда работал с теми кадрами, которые были. В Горках все кадры на месте».

Не был забыт и прежний руководитель, присутствовавший в зале. Благодарность от коллег по работе, картина в подарок и Грамоты от местных органов власти - повод не забыть о годах, проведенных в Горках.

Выступивший во второй раз - на этот раз со словами благодарности в адрес Владимира Долженкова - губернатор добрым словом помянул его работу по благоустройству, ни словом не обмолвился о промышленности и сдержанно высказался о сельхоздостижениях района.

Сам Владимир Сидорович сказал, обращаясь к теперь уже бывшим подчиненным: «Я благодарен судьбе за то, что мне пришлось поработать вместе с Вами. Город начинает приобретать вид места, где должны жить люди».

На этом всё и закончилось. Рукопожатия и добрые слова продолжились теперь уже в неофициальной обстановке. Благо входную дверь в этот раз никто не сторожил и от фотокамеры не шарахался.

Так бы и дальше.

**_Иван Морозов_**

# Каб выбіраць па-еўрапейску

***У сваім апошнім нумары расійская «Новая газе-та», паведаміла аб «палітычных тэхналогіях», якія практыкуюцца напярэдадні прэзідэнтскіх выбараў у сучаснай Чачні.***

Атрымаўшы ад Масквы карт-бланш, мусульманскі «поп-расстрыга» Кадыраў згодна-з азіяцкімі традыцыямі падмяў пад сябе ўсё і ўсіх, да каго змог дацягнуцца, сфарміраваў з амніставаіыіх баявікоў нешта накшталт уласпага войска, начальнікам якога прызначыў свайго сына! Такім чынам чачэнскі электарат, які шмат ужо год досыць церпіць і ад уласных партызанаў і ад «вызвленцаў» з поўначы, знянацку трапіў яшчэ і пад трэці каток, аб якім «незалежныя» расійскія тэлеканалы чамусці маўчаць, рэкламуючы надыходзячыя выбары, як верх дэмакратыі.

Можа па-азіяцку гэта і верх, але ў Еўропе стандарты нашмат іншыя.

Аб гэтым на мінулым тыдні ішла гаворка на семінары. які праводзілі для горацкай моладзі дэпутат Мінскага райсавета, сябра партыі БНФ Юрась Зянковіч і яго памочнік Андрусь Сухаверхі. Па словах гэтых хлопцаў, маладыя людзі, якім неабыякавы лёс краіны, павінны імкнуцца да ўдзелу ў выбарчых кампаніях у розных якасціях, каб набыць пэўны досвед і аўтарытэт. Прыклад таму -сам Юрась, які ў няпростых умовах сёлетніх выбараў здо-леў атрымаць перамо'гу.

На думку Андруся, які меў магчымасць павучыцца выбарчым тэхналогіям за мяжой, у розных еўрапейскіх краінах, шмат цікавага і станоўчага маладыя актывісты з Беларусі могуць пераняць у сваіх украінскіх сяброў. Дарэчы, на мінулых выбарах, на участку, дзе балатаваўся (і потым быў абраны) сп. Зянковіч, менавіта ўкраінскі пазіралыіік схапіў за руку чалавека. які намагаўся кінуць у вурну каля сарака бюлетэняў з «патрэбнымі» галасамі. Да парламетскіх выбараў у Беларусі яшчэ год. Ёсць час падрыхтавацца.

**_Дзядзька Тарас_**

# Новы сьледчы па «гучных справах» пачаў працу са скандалю

***Жонка зьніклага бізнэсоўца Анатоля Красоўскага і яе прадстаўнік Гары Паганяйла намерваліся 29 ліпеня перадаць шэраг гаспадарчых хадайніцтваў і дакумэнтаў па справе аб зьнікненьні палітыка Віктара Ганчара і бізнэсоўца Анатоля Красоўскага новаму сьледчаму пракуратуры Кухаронку С. Г, які вядзе гэтую справу пасьля нядаўняга аднаўленьня. Аднак сьледчы Кухаронак адмовіўся сустрэцца з Красоўскай у прысутнасьці Паганяйлы.***

Сярод хадайніцтваў - патрабаваньні, зьвязаныя з праверкай розных фактаў і інфармацыі, а таксама хадайніцтва аб допуску Паганяйлы ў якасьці прадстаўніка І. Красоўскай па дадзенай справе. Да хадайніцтва былі прыкладзеныя таксама некаторыя дакумэнты, якія маюць адносіны да справы (у прыватнасьці, ксэракопія пастановы аб прэвэнтыўным затрыманьні камандзіра СОБРу Д. Паўлічэнка за подпісам старшыні КДБ У. Мацкевіча і з санкцыямі намесьніка генпракурора Снегіра). Аб сустрэчы з сьледчым было дамоўлена папярэдне. Аднак сьледчы Кахуронак адмовіўся сустрэцца з Красоўскай у прысутнасьці Паганяйлы. У сваю чаргу, Красоўская адмовілася сустракацца з сьледчым без свайго прадстаўніка. Пасьля перамоваў па тэлефоне, якія цягнуліся амаль паўтары гадзіны, падрыхтаваныя хадайніцтвы былі пакінутыя на прахадной пракуратуры Менску. Да іх было прыкладзенае хадайніцтва Красоўскай пракурору гораду Менску аб адводзе сьледчага Кухаронка С. Г. Прэс-цэнтру Хартыі Ірына Красоўская паведаміла:— *Гары Пятровіч Паганяйла зьяўляецца маім прадстаўніком у судзе. Суд афіцыйна прызнаў яго як майго прадстаўніка. Аднак, пракуратура гораду Менску вось ужо цяглы час адмаўляецца дапусьціць Паганяйлу ў якасьці майго прадстаўніка на этапе папярэдняга сьледзтва. Сьледчы Кухаронак нават не дапусьціў яго прысутнічаць у кабінэце, калі я хацела перадаць хадайніцтва, а таксама натарыяльна завераную даверанасьць, якая сьведчыць, што Паганяйла мой афіцыйны прадстаўнік у судзе, следчых органах і гэтак далей. Паўстае пытаньне - чаму яны ўпарта не жадаюць дапусьціць Паганяйлу ў якасьці прадстаўніка? Можа, таму, што ён сапраўды прадстаўляе нашыя інтарэсы як пацярпелых, і задае занадта шмат непрыемных для сьледзтва пытаньняў? Гэты інцыдэнт яшчэ раз пацьвердзіў, што справа адноўленая не для таго, каб быць расьследаванай, а для таго, каб «пусьціць пыл у вочы» ўласнаму народу, усясьветнай грамадзкасьці, міжнародным арганізацыям, ухаваць ісьціну, прыкрываючыся таямніцай сьледзтва, і трымаць расьследаваньне пад кантролем. Таму я напісала пракурору гораду хадайніцтва з патрабаваньнем аб адводзе сьледчага — бо ўжо на першым этапе ён адмовіўся выканаць самае малое й простае, з чаго ён бы мог пачаць — прызнаць Г. Паганяйла маім прадстаўніком. Што ж казаць тады пра нашыя іншыя хадайніцтвы — такія, як патрабаваньні дапытаць вышэйшых службовых асобаў, якія неаднаразова згадваліся ў СМІ ў сувязі з выкраданьнем Ганчара, Красоўскага, Захаранкі, Завадзкага.*

***Хартыя'97.***

# «Пры наступнай уладзе сьведкі ў чаргу стануць»

***На пытаньні газэты «Наша Ніва» адказвае жонка зьніклага ў верасьні 1999 году бізнэсоўца Анатоля Красоўскага Ірына Красоўская.***

**Аднаўленае сьледзтва. Ці будзе ад гэтага рэальная карысьць?**

Ірына Красоўская: Калі стала вядома пра аднаўленьне сьледзтва, я захацела сустрэцца зь сьледчым і перадаць яму частку хадайніцтваў. Але на наступны дзень сьледчы адмовіўся мяне прыняць, бо я была разам з адвакатам Гары Паганяйлам. Паганяйла для іх — як чырвоная хустка для быкоў... Так што аднаўленьне справы — гэта чарговая бачнасьць.

**А якая Вашая пазыцыя?**

Алкаеў казаў, што каля трыццаці высокапастаўленых людзей ведаюць праўду пра зьнікненьні. Але ўсе маўчаць, баяцца за сябе, за сям'ю. Лішняе слова — і цябе няма. Таму адзінае выйсьце — памяняць гэтую ўладу. Пры наступнай уладзе ахвотныя сказаць у чаргу стануць. Я не разумею, як можна расьследаваць гэтыя справы, ня ўлазячы ў палітыку. Можна гадамі і стагодзьдзямі казаць: «Якая я бедная-няшчасная, дзе мой муж?» А вынікаў ня будзе ніякіх.

**Можа, Анатоль, Віктар Ганчар і іншыя зьніклыя яшчэ знойдуцца?**

Я надзею згубіла яшчэ пазалетась. Кожны раз я перачытвала тыя дакумэнты, я разумела, што ўсё напісанае — праўда. Што Анатоля няма. Трэба глядзець праўдзе ў вочы. Наколькі я ведаю, Зінаіда Ганчар яшчэ чакае. Калі мы езьдзілі ў Парыж, яна была ўпэўненая, што яны жывыя. Але я размаўляла з Алкаевым, ён пацьвердзіў тыя свае словы, і я зразумела, што, хутчэй за ўсё, яны забітыя.

***Веранікa Дзядок, «Наша Ніва»***

# Прадрымальнікі на шляху яднання




***Першага жніўня, па запрашэнню прыватных прадпрымальнікаў, Горкі наведалі намеснік старшыні Свабоднага прафсаюза Юрась Новікаў і старшыня Свабоднага прафсаюза прадпрымальнікаў Магілёўскай вобласці Сяржук Фамін.***

На горацкім рынку адбылася сустрэча, прадстаўнікоў Свабоднага прфсаюза з прадпрымальнікамі, на якой было абмеркавана шэраг пытанняў, звязаных прыватнай дзейнасцю. Кіруючай праблемай для шэрагу прыватнікаў з'яўляецца рашэнне аб ўвядзенні касавых апаратаў, якое не так даўно прыняў Магілёўскі абласны выканаўчы камітэт. Сяржук Фамін давёў да прысутных пра сітуацыю, ў якую могуць патрапіць прыватнікі, дзякуючы новаўвядзенню. У наяўны час паміж прафсаюзамі і аблвыканкамам вядуцца перамовы наконт адтэрміноўкі непрымальнага дакуманта не раней чым на пачатак 2004 года. У выпадку калі перамовы не прынясуць чакаемых вынікаў — прадпрымальнікам давядзецца ладзіць акцыі пратэсту, нават страйкі, з адмовой выплочваць падаткі. Акрамя таго, былі абмеркаваны пытанні пра так званыя абавязковыя выплаты у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, гігіенічнай рэгістрацыі і сэртэфікацыі тавару. Сацыяльнае страхаванне, якое датычыцца прадпрымальнікаў, на думку гасцей, з'яўляецца добраахвотным і кожны прыватнік мае права адмовіцца ад гэтай паслугі. Што датычыцца сэртэфікацыі і гігіенічнай рэгістрацыі тавару, то прадстаўнікі Свабоднага прафсаюза сцвярджаюць, што наяўнасць гэтых дакументаў не з'яўляецца абавязковай і мець іх, наводгул, уласная справа гандляра. Здругога боку, такія дакументы патрэбны, каб падцвердзіць якасць тавару і забяспечыць з іх дапамогай здароваю канкурэнцыю на харчовым рынку. Але гэтаму могуць спрыяць самі спажыўцы, шляхам байкоту «незразумелых» тавараў. Замест гэтага дзяржаўныя інстанцыі гвалтоўна прымушаюць выконваць «працэдуры» пад пагрозай штрафу, ці пазбаўлення пасведчання.

Прыватнікі адзначылі, што сустрэча для іх была карыснай, а некаторыя з іх нават падалі заявы на ўваход у Свабодны прафсаюз прадпрымальнікаў. Але чамусці агучываць сваі імёны пабаяліся. Цікава з чым гэта звязана?

**Дзям'ян Франкоўскі**

# Наближаюцца масавыя акцыі пратэсту

***Страйкам прадпрымальнікаў, якім кіруе Валеры Леванеўскі, абвесьціў аб падрыхтоўцы і правядзеньні масавых палітычных акцыяў пратэсту. Падставаю для абвяшчэньня акцыяў стала чарговае ўвядзеньне новага штомесячнага абавязковага падатку (пабораў) для прадпрымальнікаў ў выглядзе абавязковага сацыяльнага страхаваньня ў памеры фактычна 36 адсоткаў ад прыбытку. Прычым падатак будзе спаганяцца незалежна ад таго, колькі дзён працуе індывідуальны прадпрымальнік у месяц, колькі ў яго дзяцей і колькі ў яго гадоў працоўнага стажу. Нават калі ён не працуе, ці працуе адзін дзень у месяц, ці не атрымаў прыбытку — ён будзе абавязаны плаціць мінімальна 36% ад пражытачнага мінімуму штомесяц (сёньня каля 19 дал ЗША), з пасьлядоўным пераразьлікам гэтай сумы пабораў у бок павелічэньня.***




У выпадку няўплаты прадпрымальнікам дадзеных пабораў, яны, пaборы, будуць спаганяцца ў судовым парадку, з налічэньнем фінансавых санкцыяў у такім самым памеры, штрафу й пені.

Ужо многім прадпрамальнікам, якія сталі на ўлік у аддзел па сацыяльным страхаваньні, налічылі вялізныя штрафы ад 400.000 рублёў і вышэй. Прычым гэтыя санкцыі неканчатковыя. Пасьля падачы дэкларацыяў санкцыі будуць павялічаныя ў 2-100 разоў.

Асаблівасьць цяперашніх акцыяў пратэсту заключаецца ў тым, што асноўным патрабаваньнем прадпрымальнікаў будзе адстаўка прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі, як асноўнага ініцыятара эканамічнага генацыду супраць грамадзянаў Рэспублікі Беларусь і іх дзяцей, эканамічнага генацыду супраць прадпрымальнікаў, і як асноўнай перашкоды разьвіцьцю дробнага й сярэдняга бізнэсу ў Рэспубліцы Беларусь, які наносіць шкоду грамадзянам і нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь.

*Заўвага: Падаткавае заканадаўства ў Рэспубліцы Беларусь уладкаванае так, што прадпрымальнік забавязаны валавы даход і чысты прыбытак указваць аднолькавымі. Інакш прадпрымальніка чакаюць вялізныя фінансавыя санкцыі, арышт асабістай маёмасьці, крымінальная адказнасьць, арышт і зьбядненьне.*

**Прэс-служба Страйкаму прадпрымальнікаў РБ**

# Пашанцавалаз

***Не ведаю як вам, а мне сёлета з адпачынкам пашанцавала. Польская фундацыя Nowy Staw запрасіла дзевяць беларускіх журналістаў адпачыць і крыху падвучыцца пад Люблінам. У склад гэтай «дэлегацыі» патрапіў і я. Перасякаючы мяжу ў Берасці нават не мог сабе ўявіць, што назад буду вяртацца з тугою ў сэрцы. Аднак пра ўсё па-парадку.***



## Штотакое Nowy Staw?

Няўрадавая польская арганізацыя «Фундацыя Nowy Staw» працуе з беларускімі грамадскімі дзеячамі даўно. Асабліва супраца добра ідзе ў сферы маладзёвых абменаў. Гэта калі нашы хлопцы ды дзяўчыны едуць «у вялікі свет» паглядзець на іншых, ды сябе паказаць. Прыблізна гэтак сама было і з гэтай вандроўкай. Беларусы былі запрошаны на «Media Camp» (летнік сродкаў масавай інфармацыі), на якім настаўнікамі былі нямецкія маладзёны. З нашай краіны прыехалі сябры студэнцкіх арганізацый, якія ў Віцебску, Оршы, Горках, Мінску ды Горадні займаюцца журналістыкай.

Мэта мерапрыемства - навучыць за тыдзень палякаў і беларусаў, якія былі разбітыя на тры групы, здымаць і мантаваць міні-фільмы (група «Сярод сяброў»), рабіць рэпартажы для дзіцячай тэлевізіі (група [I: z i ]), а таксама ствараць веб-старонкі ў міжнародным сеціве (Інтэрнэт-група). Бясспрэчна акрамя гэтай на першы погляд недасягальнай мэты было і жаданне пераадолець пэўныя «комплексы», якія ёсць у кожнай нацыі. Таму, напрыклад, палякі разам з немцамі здымалі кіно пра Майданэк (месца, дзе жаўнеры Гітлера знішчылі найбольшую колькасць людзей у Польшчы). А беларусам давялося навучыцца ўвечары граць на бубнах, таньчыць паланез і праспяваць свае песні.

## Штора білі

Па шчырасці працаваць у [I: z i ]-групе, а менавіта туды я і патрапіў, было няпроста. За некалькі дзён нам літаральна даводзілася не толькі навучыць дзяцей не баяцца выступаць перад камерай, але і правільна задаваць пытанні ды самім без памылак адказваць. Час ад часу толькі прывітальныя словы неабходна было пераздымаць па некалькі разоў. Да гэтых праблем дадавалася спякотнае люблінскае надвор'е (а ўсе здымкі адбываліся на вуліцах гэтага старога і прыгожага горада), таму цяжкавата было як дзецям, так і дарослым.

Ведаеце, пасля гэтых здымак я зразумеў, што ўсе дзеці паўсюдна аднолькавыя - толькі размаўляюць па-рознаму. Усе дзеці аднолькава ўспрымаюць свет, малююць аднолькавыя малюнкі... Гэта разуменне прымушае прыемна шчыміць сэрца. Нават зараз, калі пішу гэтыя радкі. Праўда, былі і абсалютныя нечаканасці, ад якіх нельга было не разгубіцца. Крыху сорамна было пачуць ад тых сама дзяцей, дапрыкладу, што яны не ведаюць такой краіны як Беларусь. Калі ж ты спрабуеш ім патлумачыць, што беларусы - суседзі палякаў, дык атрымліваеш сапраўдную апляўуху... Дзіцё сур'ёзна адказвае, што сярод суседзяў Польшчы яму вядомыя толькі Злучаныя Штаты Амерыкі. Вось і прыехалі. А што зробіш? Беларусь ужо даўно гуляецца ва ўласную гульню па правілах, вядомых толькі ёй. Таму на нас ужо хутка пачнуць забывацца не толькі польскія дзеці, але і нашы ўласныя.

Аднак не будзем пра сумнае. Дзеткі сапраўды патрапіліся гаваркія і амаль не сароміліся камеры. Працаваць з імі было адно задавальненне! Нашым заданнем было зняць рэпартаж пра мясцовы краязнаўчы музей і «Крыніцу кахання» (мясціна ў Любліне, дзе працуе крынічка чыстай вады, якая па легендзе прыносіць шчасце ў каханні). Хаця музей быў не вельмі вясёлай мясцінай (у Беларусі таксама шмат невясёлых музеяў), але дзеці змаглі стварыць гаманкую атмасферу і час прамінуў незаўважна.

Прыкольней за ўсё было пабываць на «Крыніцы кахання». Там нашы «гадаванцы» далі жару ўсім супрацоўнікам, здаецца, папілі ўсю ваду, панарабілі дзірак ва ўсіх кубачках для піцця, а яшчэ аблілі адно аднаго з ног да галавы. Нягледзячы на такі «разбой», рэпартажы ўсё ж атрымаліся няблага.

Складаней за ўсё было мантаваць. Матэрыялу было шмат, а каб выбраць патрэбны, неабходна было мець досвед, якога бракавала ва ўсіх чальцоў нашай групы. Нашы настаўнікі-немцы Катарына і Фелікс дапамагалі нам, як маглі, і вынікі аказаліся неблагімі. У апошні дзень, калі адбывалася прэзентацыя зробленага, наш фільм атрымаў самыя цёплыя водгукі.

## Якадпачывалі

Бясспрэчна акрамя працы быў і адпачынак, дзеля якога, ў прынцыпе, і прыехала наша беларуская група. Ніводнага дня не абыходзілася без якойнебудзь забавы. Нямецка-польска-беларускі калектыў паліў вогнішча і спяваў па чарзе нацыянальныя песні, наведваў дыскатэку ў Любліне, блукаў па сутарэннях палацу, дзе была калісь заключана Люблінская вунія паміж Польскай каронай і беларускім Вялікім

# адпачынкам



даводзілася таньчыць «Крыжачок» альбо «Кракавяк» казалі, што ў беларусаў самыя складаныя танцы ў свеце. Аднак гэта не так, скажу я вам, можаце мне ўжо паверыць). Таксама ахвочыя спрабавалі свае сілы ў паланезе, а пара пераможцаў змагла прымерыць нацыянальную вопратку польскіх сялянаў. У паланезе першымі былі палякі па прычыне... (прычыну шукаць некалькі радкоў вышэй).

Найболей запомнілася беларускаму боку ігра на бубнах. Пасля паўгадзіннага даволі гарманічнага грукату шмат хто з нашых займеў жаданне атрымаць бубен у якасці падарунка на дзень народзінаў, пры чым тут былі ўлічаны ўсе абставіны: магчымасць бессаромнага шантажу суседзей і помста няпрошаным гасціям.

## На развітанне

Пакідаць Польшчу не хацелася. Гэта не краіна-рай, але Беларусі яшчэ так далёка да польскай свабоды, якая сапраўды адчуваецца ў кожнай кроплі дажджу, у кожным подыху. Там усё інакш. Не, там такая ж прырода і такія самыя людзі, ды толькі там не адчуваецца вечнага змагання за ўраджаі, няма там і вечнага пошуку ворагаў народу. Палякі знайшлі ўжо ўсё, што шукалі. Дай, Божа, і нам таго ж.

*Ілля Заранок*

княствам. Дарэчы, у гэтым самым палацы ёсць вельмі цікавы пакой. У ім настолькі дакладна прадумана акустыка, што калі стаіш у адным куце памяшкання, выдатна ўсё чуеш, пра што шапочуць у супрацьлеглым. Распавядаюць, што такая пабудова невыпадковая. Польскія каралі адмыслова замовілі такі пакой пад споведзі сваіх жонак. Пакуль каралеўны шапталі на вуха ксяндзу пра свае грахі, іхныя супругі ўсё класна праслухоўвалі ў аддаленым куце памяшкання. Вось і ўся музыка! І ксёндз не парушыў абету споведу, і кароль даведаўся пра ўсе жончыны таямніцы.

Да таго ж, нам выпала магчымасць развучыць колькі нацыянальных польскіх танцаў, якія цяжэй таньчыць за беларускія (дарэчы, палякі, якім



# Горячая вода будет

## Если Вы нагреете её в чайнике

**В минувшие выходные в наших квартирах снова не оказалось горячей воды. В «Тепловой энергетике» объясняют это ремонтом теплотрасс, на который наконец-то стали выделять деньги. Не будет её и в нынешние субботу-воскресенье. О дальнейших планах тепловиков узнать пока не удалось - ответы весьма туманны. Знающие люди говорят (да и собственный опыт подсказывает), что в следующий раз мы сможем по-человечески принять ванну с началом отопительного сезона.**

**Существует и другая версия происходящего – с подачи районной вертикали «Тепловая» стала экономить на топливе, поскольку возникают проблемы с его оплатой, и, как результат, поставками.**

*Иван Морозов*

# Гимназия имя не меняет

**В конце учебного года мы рассказывали о проходящей в горецкой гимназии аттестации. После тщательного анализа работы педколлектива, авторитетная комиссия, представлявшая Департамент контроля качества образования, выработала соответствующее заключение. Честно говоря, в положительном итоге аттестации мало кто сомневался.**

**Как сообщил нам недавно директор гимназии Михаил Агеевич Добышев, так оно и вышло – соответствующий документ, подтверждающий статус гимназии ещё на пять лет, недавно вручен её руководителю. Сейчас Михаил Агеевич находится в отпуске, после окончания которого пообещал более подробно рассказать о сегодняшнем дне возглавляемого им учебного заведения.**

*Соб. инф.*

# Актывісты грамадскага аб'яднаньня «Русь» сьцьвярджаюць, што ў беларусі адбываецца дыскрымінацыя расейцаў

***Гэтыя людзі незадаволеныя тым, што некаторыя дзяржаўныя службы Беларусі пачалі выкарыстоўваць у сваёй дзейнасьці беларускую мову.***

Пра тое, што этнічных расейцаў бычцам бы дыскрымінуюць у Беларусі паведаміў Інфармацыйна-аналітычны партал постсавецкай прасторы «Маярык», створаны расейскай грамадзкай арганізацыяй «Інстытут краінаў СНД» пад кіраўніцтвам Канстанціна Затуліна. Гэты сайт сьцьвярджае, што «беларускія ўлады працягваюць, насуперак Канстытуцыі і Закону «Аб мовах» Рэспублікі Беларусь, праводзіць палітыку скіраваную на скарачэньне выкарыстаньня ў краіне расейскай мовы».

Аўтар артыкулу спасылаецца на словы актывістаў малавядомага таварыства расейскай культуры «Русь», якія сьцьвярджаюць, што цяпер у Беларусі парушаюцца іхныя моўныя правы. Маўляў, на таварных абгортках зьявіліся беларускія тлумачэньні, у гарадзкім транспарце Менску ўсё больш беларускамоўных абвестак, а даведка пра час і надвор'е ў сталічным тэлефонным сеціве гучыць цяпер выключна па-беларуску. Актывісты таварыства «Русь» накіравалі пратэст у Камітэт справаў стандартызацыі, мэтралёгіі й сэртыфікацыі пры Савеце Міністраў. Пры гэтым яны дадаюць сваю гістарычную даведку. Аказваецца, што расейская мова выкарыстоўваецца на тэрыторыі Белай (Заходняй) Русі больш за 1000 гадоў. Паводле аўтараў, гэтая мова была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім і ледзь ня роднай для Эўфрасіньні Полацкай, Францішка Скарыны, Кірылы Тураўскага, Сымона Полацкага ды іншых выбітных асобаў беларускай гісторыі й культуры. На гэтай падставе актывісты таварыства «Русь» заяўляюць, што «спробы штучна абмежаваць сфэру выкарыстаньня расейскай мовы ў Беларусі, супярэчаць ня толькі нормам дэмакратыі, але й прынцыпу гістарычнай справядлівасьці».

Намесьнік старшыні Дзяржкамітэту ў справах стандартызацыі, мэтралёгіі й сэртыфікацыі Аляксей Клімянкоў паведаміў, што актывістам расейскага таварыства высланы адказ. У ім паведамляецца, што на пакунках беларускіх тавараў інфармацыя падаецца як на беларускай, гэтак і на расейскай мовах. Таму ніякага парушэньня моўных правоў тут няма. Вядома, што апошнім часам для пашырэньня ўжываньня беларускай мовы ў пэўных сфэрах жыцьця й гаспадаркі шмат намаганьняў было прыклала Таварыства Беларускай Мовы. Намесьнік старшыні ТБМ Сяргей Кручкоў назваў абвінавачваньні таварыства «Русь» абсурднымі й сьмешнымі. Таварыства Беларускай Мовы мае афіцыйны ліст ад старшыні Канстытуцыйнага суда Рыгора Васілевіча, які рэкамэндуе Дзяржстандарту зьмяшчаць паўсюль інфармацыю на абедзьвюх дзяржаўных мовах, каб не пакрыўдзіць розныя групы насельніцтва. Так, што ў ТБМ спадзяюцца, што зварот таварыства «Русь» ня будзе мець ніякіх наступстваў, натуральна, калі ў гэтую справу ня будуць мяшацца нейкія іншыя высокія чыноўнікі.

Таварыства «Русь» — гэта малавядомая ў Беларусі арганізацыя, хоць яна й існуе з пачатку 90-х гадоў. Я адмыслова патэлефанаваў у гэтай справе ў Міністэства юстыцыі. Начальнік управы рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў Міхаіл Сухінін паведаміў, што кіруе гэтай арганізацыяй нехта Міхаіл Паўлаў, а штаб-кватэра знаходзіцца ў Берасьці. Па ўсёй Беларусі «Русь» мае некалькі дзясяткаў сябраў.

***Альгерд Невяроўскі, Радыё Свабода***

# Требуются учителя

Приближается новый учебный год. Как сообщили нам в Управлении образования, в районе стало на две школы меньше - закрыты Никулинская школа-сад и Старосельская начальная школа. В то же время, социальный приют для пятнадцати детей в Староселье останется.

С первого сентября в учреждениях образования сокращаются 60 ставок, из них 41 педагогическая. Именно столько учителей получили в начале лета уведомления о предстоящем сокращении. Однако, это не означает, что все они будут уволены. По информации из отдела кадров, троим из них увольнение уже не грозит, кто-то перейдёт на полставки, некоторые - на другие должности.

Есть и вакансии. В различные школы, как городские, так и сельские, требуются преподаватели немецкого языка, математики, два физика и два «француза».

***Соб.инф.***

УзГорак

**Рэдактар** - ***Эдуард Брокараў.***

**Шэф-рэдактар** - ***Дзям'ян Франкоўскі.***

**E-mail**: dnescer@tut.by

Выпуск-8, ад 25.08.2003 г. Фармат - А-4, 4 лісты. Наклад - 299 асобнікаў.

**Адрас рэдакцыі:** *г. Горкі, зав. 2-гі Магілёўскі, д.1.* Надрукавана на тэхніцы горацкага РА РГА ***«Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў».***